БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

15 кастрычніка 1994 г.
Субота
№ 110(13827)
Кошт у розніцу 25 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:

Роздум старшыні Цэнтральнай рады Беларускай экалагічнай партыі Аляксея Мікуліча. 2

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА. 2

ПРА ВОЛЬНАСЦЬ НА "ВОЛЬНАЙ СЦЭНЕ". 3

ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ. 4

Малюе Віктар ДУБОВІК





*Учора ў Мінскім Кафедральным саборы прайшоў фестываль званароў. Матэрыял аб праблемах стварэння Саюза званароў Беларусі чытайце на 2–й стар.*

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

АДМЕТЫ ЧАСУ

## Хто зачыніць дзверы перад маладзёжным беспрацоўем?

Беларускую сталіцу сёння непакояць тыя ж праблемы, што і буйныя гарады свету. Да такога выніку прыйшлі вучоныя Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі і спецыялісты гарадскога Цэнтра занятасці насельніцтва, якія вывучалі маладзёжнае беспрацоўе. За дзевяць месяцаў бягучага года ў Мінску зарэгістравана 11 023 беспрацоўных, 15,5 працэнта з іх—маладыя. Практычна ўсе апытаныя лічаць беспрацоўе сумнай рэальнасцю сённяшняга дня.

На працягу трох гадоў праводзіўся ў горадзе маніторынг "Маладзёжнае беспрацоўе: праблемы, тэндэнцыі, перспектывы". Вучоныя і спецыялісты службы занятасці дасканала даследавалі гэтыя пытанні ў асяроддзі выпускнікоў школ, ПТВ, тэхнікумаў і ВНУ сталіцы. Аналіз паказаў, што за тры гады значна вырасла колькасць маладых людзей, якія вучыліся на курсах, арганізаваных службай занятасці. Прычым пасля атрымання работы многія выказалі жаданне вучыцца ці перавучвацца далей. У мінулым годзе толькі 34 працэнтам маючых патрэбу ў рабоце былі прапанаваны месцы, затое ў гэтым годзе лічба дасягнула 64,6 працэнта. Як сведчыць даследаванне, абсалютная большасць юнакоў і дзяўчат хочуць атрымаць спецыяльнасць або прайсці перападрыхтоўку бясплатна.

Вучоныя "намалявалі" і псіхалагічны партрэт выпускнікоў, якія засталіся без справы. На думку сацыёлагаў, навяспечаныя беспрацоўныя з ліку закончыўшых школу, як правіла, абыякава адносяцца да работы, будучай прафесіі і працы ў цэлым. Больш як 70 працэнтаў апытаных лічаць, што беспрацоўных маладых дастаткова многа. Таму адсутнасць занятасці, якая працягваецца не больш чым тры месяцы, успрымаецца гэтай катэгорыяй дастаткова цярпіма. Але жыць толькі на дапамогу, якую выплачвае служба, згадзіліся толькі адзінкі. Сацыёлагі адзначаюць, што ў выбары прафесіі маладых вяршэнствуе дзве асаблівасці — цікавая работа і добрыя заробкі. Прычым яны могуць мяняцца месцамі, але ў шэрагу іншых патрабаванняў, якія прад'яўляюцца да будучай спецыяльнасці, пастаянна захоўваюць лідэрства.

Даследаванне паказала, што больш пазітыўна ацэньваюць уласную будучыню выпускнікі школ, але менш радасна тыя, хто скончыў ПТВ, тэхнікумы і ВНУ. Выпускнікоў, якія маюць сярэднюю і вышэйшую адукацыю, асабліва хвалюе зніжэнне ўзроўню жыцця.

А якія перспектывы маладзёжнага беспрацоўя ў беларускай сталіцы? Несумненна, яно будзе расці. Таму вучоныя і спецыялісты прапануюць шэраг мер, якія здольны змякчыць сітуацыю. На думку даследчыкаў, неабходна развіваць розныя формы і віды прадпрымальніцтва і дробнага бізнесу, прыцягваць маладых у невытворчую сферу, уцягваць гарадское насельніцтва ў сельскую гаспадарку, актывізаваць падрыхтоўку кадраў будаўнічых спецыяльнасцей. Вучоныя лічаць, што настаў момант, калі трэба ўсур'ёз задумацца над стварэннем пэўных ільгот для дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, якія будуць прадугледжваць на сваіх вытворчасцях рабочыя месцы і пасады для маладых. І шырэй прымяняць на практыцы гібкія формы занятасці, якія даюць магчымасць змяняць рэжым работы, прадстаўляючы няпоўны працоўны дзень ці рабочы тыдзень. Не трэба грэбаваць і часовымі работнікамі, надомнай працай, а таксама занятасцю па кантракту.

Наталля НЕВІДОМАЯ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Прэзідэнцкі маналог у астанкінскім "Дыялогу"

*Сёння прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыме ўдзел у тэлемосце "Мінск—Масква" і напярэдадні сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД адкажа на пытанні маскоўскіх журналістаў.*

Беларускія тэлегледачы змогуць убачыць гэту перадачу ў 14.00 па мясцоваму часу.

### Дарагоўля абясцэньвае працу

*Няспынны рост цэн на тавары першай неабходнасці, транспарт, кватплату і тарыфаў на бытавыя паслугі прымусіў савет прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Беларусі прапанаваць адміністрацыі прадпрыемстваў галіны правесці з 1 кастрычніка павышэнне зарплаты і атрымліваемага даходу працоўных не менш чым на 70 працэнтаў.*

Да такіх неардынарных дзеянняў савет прафсаюза падштурхнула адмова бягучай сесіі Вярхоўнага Савета краіны перагледзець памер мінімальнай заработнай платы. А тым часам інфляцыя абясцэньвае не толькі "зайчыкі", але і саму аснову грамадства — працу. Паводле падлікаў прафсаюзаў, удзельная вага зарплаты ў грашовых даходах насельніцтва сёння складае толькі 47 працэнтаў. Гэта азначае, што ў катэгорыю малазабяспечаных трапляюць і тыя, хто працуе. Адсюль — прамы шлях да сацыяльнага ўтрыманства, да чэргаў па дапамогі.

БЕЛІНФАРМ.

### Будучыня вышэйшай адукацыі

*Сваю чацвёртую нараду правялі ў штаб–кватэры ЮНЕСКО у Парыжы два з паловай дзесятка міжнародных няўрадавых арганізацый, аб'яднаных у "Калектыўны кансультатыўны орган па вышэйшай адукацыі".*

На ёй былі прадстаўлены міжнародныя арганізацыі ВНУ, прафесійныя арганізацыі выкладчыкаў вышэйшай школы, студэнцкія саюзы і асацыяцыі, якія адлюстроўваюць інтарэсы сусветнага акадэмічнага супольніцтва і студэнцтва.

На нарадзе абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з рэалізацыяй праграмы ЮНЕСКО ў галіне вышэйшай адукацыі і праблемамі развіцця вышэйшай школы на нацыянальным і рэгіянальным узроўнях у XXI стагоддзі. На думку дырэктара аддзела вышэйшай адукацыі ЮНЕСКО Марка Антоніо Дзіяса, праведзеная нарада важная ўжо тым, што міжнародныя няўрадавыя арганізацыі атрымалі новую магчымасць сустрэцца і разам выпрацаваць канкрэтныя навуковыя абгрунтаваныя рэкамендацыі, якія дадуць ім магчымасць актыўна ўдзельнічаць у выпрацоўцы і рэалізацыі палітыкі, планаў і праектаў ЮНЕСКО ў галіне вышэйшай адукацыі, арыентаваных на патрэбы сусветнага развіцця ў XXI стагоддзі.

Святлана КУЛІКОВА.

### Канец падпольнай гарэлкі

*Падпольную гарэлачную вытворчасць выкрылі супрацоўнікі Ленінскага аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Брэста.*

Паводле інфармацыі, што паступіла да іх, да аднаго з дамоў па бульвары Касманаўтаў даволі часта пад'язджалі аўтамабілі, з якіх выгружаліся пустыя бутэлькі, каробкі з-пад садавіны і іншыя ёмістасці. Наведаўшы кватэру, якая трапіла пад падазрэнне, пад выглядам праверкі пашпартнага рэжыму, яны ўбачылі завалы пустых бутэлек, многія з якіх пасля адмакання ў ванне былі ўпрыгожаны свежанаклеенымі этыкеткамі "Горилка Российская" з характэрнымі клеявымі паласамі на адваротным баку і ліпеньскай датай выпуску. Тут жа знаходзіліся машынка для закаркоўвання, штэмпель і іншыя прыстасаванні. А яшчэ ў чатырох розных ёмістасцях — 130 літраў вадкасці, якая пахам нагадвае спірт і цяпер адпраўлена на экспертызу. У пакоі, дзе адчуваўся моцны пах спіртнога, знаходзіліся два маладыя чалавекі. Тут жа была і сама гаспадыня, адзінокая жанчына, у якой, паводле яе слоў, папрасілі дазволу пажыць чацвёра прыезджых з Івана-Франкоўскай вобласці. А паколькі плата за пастой была добрай, то гаспадыня "не заўважала" таго, чым займаюцца яе кватаранты. Яны ж спакойна разлівалі самаробную гарэлку і прадавалі яе на падыходах да брэсцкага рынку.

Усе дзялкі, уключаючы гаспадыню і рэчавыя доказы, былі дастаўлены ў аддзяленне міліцыі. Цяпер ідзе следства, праводзіцца экспертыза. Не за гарамі і суд, у выніку якога кожны атрымае па заслугах. Да ўсяго гэтага варта дадаць, што ўмельцы прыбылі ў Брэст з Украіны са сваёй сыравінай і прыстасаваннямі. Аказваецца, у суседняй краіне купіць увесь гэты набор — машынку для закаркоўвання, коркі, этыкеткі і штэмпель няцяжка. Ды і, як сказалі навяўленыя алкагольныя дабрадзеі, спірт, які на Украіне прадаецца на кожным рагу, яны набылі па цане 1,7 даляра за літр.

БЕЛІНФАРМ.

### Будзем з грыбамі

*Багатыя асіповіцкія лясы на грыбы. Хапае тут і лісічак, і баравікоў, і падасінавікаў, але асабліва шмат восеньскіх грыбоў — апенек, груздоў і г.д. Кожную восень тут пачынаюць дымець грыбаварныя пункты мясцовай нарыхтоўчай канторы.*

Сёлета іх чатыры — у Дрычыне, Каранах, Слопішчы, Карытным. Ужо зварана больш як шэсць тон грыбоў.

Іван СЦЯПУРА.

### Або грошы, або здароўе

*Многія неабходныя лекі сёння можна набыць толькі ў валютных аптэках. Напрыклад, у сталічнай аптэцы па вуліцы Я.Коласа ўсемагчымыя вітаміны каштуюць ад 1 да 3,5 даляра. Тусупрэкс — 2,1 даляра, тазепам — 1,4 даляра, баралгін — 2 даляры. Ёсць і больш дарагія таблеткі— і па 8, і па 10 даляраў.*

Сярод наведвальнікаў аптэкі я не ўбачыла ні адной бабулькі-пенсіянеркі. Яны ідуць у суседнюю аптэку, рублёвую. Там цэны, само сабой, ніжэйшыя, але і выбар небагаты.

Так што трэба мець адно з двух: або грошы, каб наведваць валютную аптэку, або здароўе, каб зусім не наведваць яе.

Ганна МАСЛЯКОВА.

### За пагляд валюту бяруць

*Прэзентацыя другога нацыянальнага конкурсу "Супермадэль Беларусі" адбылася днямі ў Гродна.*

Лепшыя манекеншчыцы рэспублікі паказалі калекцыі мадэлей моднага ў бягучым сезоне адзення з гандлёвых дамоў Германіі, Францыі, Італіі і Англіі. Тое, што прыходзілася даспадобы кліентам, прадавалася адразу. Акрамя таго, любую рэч з прапанаваных каталогаў можна было заказаць.

Дарэчы, грошы бралі і за "пагляд". Уваходны білет, у цану якога ўключаны пачастунак і спіртное, каштаваў 70 даляраў.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Курсы валют на 14 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5530 | 5720 | 3578 | 3700 |
| "Прыор" | 5100 | 5500 | 3300 | 3550 |
| "Дукат" | 5600 | 6200 | 3300 | 3600 |

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

## Эцюд у барвовых танах

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

*Інфармацыйны рынак рэспублікі на тыдні запоўнілі не толькі мясцовыя, а і хронікі з блізкага замежжа. Расія, Украіна, Казахстан крыху наблізіліся да беларускага ландшафту. Паўсюдна пануе барвовая фарба восені. Аднак не аб яе развітальнай прыгажосці блокі інфармацыі. Чорны друкарскі шрыфт газет і электронныя СМІ разносілі іншыя весткі, хаця па напалу і танальнасці таксама вытрыманыя ў барвовых фарбах.*

Трэба адразу сказаць, што класічная аналогія ў назве гэтых нататак сугучная з сімволікай апошніх падзей. Белавежжа палічылі сімвалам палітычнага ўзнясення.

"Чорны аўторак" і "светлы чацвер" расійскага рубля лішні раз пацвердзілі хісткасць і ўяўнасць стабілізацыі, якая мроілася Крамлю. Падзенне і ўзлёт курсу маскоўскай валюты, якія будуць працягвацца і надалей, нягледзячы на тэрміновае рэагаванне ўлад, толькі звяно ў катастрафічным ланцужку. Пацягнуўшы за яго, можна наблізіць або аддаліць наступствы ўсерасійскай катастрафізацыі, але не змяніць вектар накірунку. Калі блішчыць сапраўднае золата, ні Захад, ні новыя рускія не любяць жартаваць. Інакш кажучы, за ўсё трэба плаціць. Крызіс нацыянальнай валюты зазначыў аб'ектыўную слабасць эканомікі і дзяржавы, няздольнасць прэзідэнта і ўрада праводзіць "паліфанічную" палітыку. Расійскія рэсурсы з яшчэ большай шпаркасцю пацякуць у заходні бок, справа ў тым, наколькі сітуацыя адаб'ецца на крамлёўскіх персаналіях. Здаецца, Ельцын імгненна адчуў пагрозу "знізу" і зрабіў шэраг крокаў вакол трона, аднак "эканамічная мадэль" не падпарадкоўваецца адміністрацыйнай мадэрнізацыі. Хаця ў фокусе офісных залаў Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы магчымыя змяненні з парадку феноменаў аптычнага падману. Асобныя карпаратыўныя групоўкі пабагацелі і пабагацеюць, пэўныя фігуры ўслед за в.а.міністра фінансаў Сяргеем Дубініным знікнуць са сцэны, астатнія рушаць "назад, да Мафусаіла". Пакуль яшчэ можна паставіць дыягназ: спекулятыўная гульня біржавікоў. А ўвогуле стабілізацыя ўсё ж адбылася, стабілізацыя на ўзроўні жабрацтва. Вядома, для народа.

Тым часам парламенцкую паўзу на Беларусі запоўнілі паездкі Аляксандра Лукашэнкі (спачатку на Украіну, потым у Салігорск), пасяджэнні Кабінета Міністраў і Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Беларускі прэзідэнт выказаўся па многіх пытаннях, ягоныя візіты дастаткова падрабязна асвятляліся ў друку. Дарэчы, праблемы "чацвёртай улады" публічна абмеркавалі галоўны рэдактар "Советской Белоруссии" І.Асінскі і начальнік Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі А.Фядута, што таксама было заўважана. Пакуль аналітыкі прадказваюць павольны прыход "расійскай інфляцыйнай хвалі" ў рэспубліку на наступным тыдні, міністры разгледзелі прапановы і дапаўненні да прэзідэнцкай праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу, ішла размова аб механізме кантролю за яе выкананнем, па сутнасці, аб фактычным пачатку рэалізацыі дакумента, які адобрыў ВС. У пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета прыняў удзел кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын і ўнёс прапановы па прыняццю заканадаўчых актаў, запланаваных у адпаведнасці з праграмай на кастрычнік-лістапад. Ажыццяўленне іх магчыма толькі пры ўмове пастаяннай работы парламента. Тут у блізкай будучыні верагодныя калізіі з-за несупадзення тэрмінаў, пазначаных у праграмных артыкулах, і канкрэтыкі заканатворчай актыўнасці дэпутатаў.

Тыдзень адметны і наступнымі падзеямі. Беларускі прэм'ер Міхаіл Чыгір ажыццявіў ваяж у Злучаныя Штаты, не пашанцавала ягонаму калегу з Казахстана — прэзідэнт Назарбаеў адправіў у адстаўку ўрад на чале з Сяргеем Цярэшчанкам, хаця апошні не губляе надзеі вярнуцца ў вялікую палітыку. Выйшаў на свабоду прэзідэнт славутага "МММ" Сяргей Маўродзі і, здаецца, таксама разлічвае ўвайсці ў шэрагі палітычнага бамонду, змагаючыся за дэпутацкі мандат Дзяржаўнай Думы. Гэтыя планы не з парадку неверагодных, сучасныя палітыкі ўсё больш нагадваюць персанажаў дэтэктыўных (на жаль, не класічных) раманаў. Памянуўшы класіку, скажам і пра новага Нобелеўскага лаўрэата ў галіне літаратуры японскага пісьменніка Кэндзабуро Оэ. На тыдні ў Стакгольме абвешчана гэтае імя. Бадай, адной з самых адметных падзей стала выступленне па астанкінскім тэлебачанні другога лаўрэата прэстыжнай прэміі Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына. Хаця ягоныя з'яўленні на экранах сталі рэгулярнымі, тыднёвая прамова адзначалася асаблівай шчырасцю. Цёмныя залатыя слёзы некалькі разоў, здаецца, закіпалі на вачах нашага класіка. Пераказваць ягоную гаворку нельга, такое трэба бачыць. А пафас вядомы: сённяшнія рэфарматары мецілі па сістэме, папалі па народу. Таталітарызм рухнуў і пахаваў пад сваімі абломкамі ружы надзей. Што будзе надалей? Хто скажа... Барвовае лісце восені сыплецца з агульнаславянскіх нябёсаў.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРЫК, ЛюдмілаКАХАВЕЦ, рэдактар НаталляВАЛАКІДА.

"Еўраньюс"

### МІНІСТР ПАД АРЫШТАМ

*Дзве ночы правёў у турме французскі міністр, мэр горада Грэнобль.*

Ён быў заключаны ў адзіночную камеру па абвінавачанню ў карупцыі.

### ПРАГРЭС НА ПЕРАГАВОРАХ

*Міністр замежных спраў ЗША Крыстафер сустрэўся з кіраўніцтвам Сірыі.*

На сустрэчы абмяркоўваліся пытанні палітычнага ўрэгулявання паміж Сірыяй і Ізраілем. Сірыя запатрабавала, каб ізраільскае насельніцтва пакінула краіну. Ізраіль згадзіўся на гэта з умовай паэтапнага перасялення ізраільцян.

"Уорлднэт"

### НЕ СТРЫМАЛІ СЛОВА

*Нягледзячы на дамоўленасць аб свабодным праездзе, баснійскія сербы блакіравалі дарогі і затрымалі канвой машын з грузам медыкаментаў і прадуктаў харчавання, прызначаны для жыхароў Сараева.*

Становішча ў горадзе застаецца напружаным. Усе спробы баснійскага ўрада дабіцца перагавораў з сербамі не ўвянчаліся поспехам.

### ЗША ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ КУВЕЙТ

*Б.Клінтан выступіў па амерыканскім тэлебачанні і адказаў на пытанні журналістаў. Асноўнай тэмай прэс–канферэнцыі стала абмеркаванне становішча на іракска–кувейцкай граніцы.*

Клінтан заявіў, што правакацыйныя дзеянні Іракa патрабуюць адказаў. Думку прэзідэнта ЗША падтрымлівае ўрад Кувейта. У Кувейт прыбудзе 34000 амерыканскіх салдат, а таксама 2 ваенныя самалёты для аказання супраціўлення іракскім атакам.

"TV-5"

### ААН БЯРЭ ПАД КАНТРОЛЬ АТАМ

*У Жэневе прадстаўнікі ААН падпісалі пагадненне з кіраўніцтвам Еўрапейскага цэнтра ядзерных даследаванняў. Згодна з дагаворанасцю, плануецца стварэнне сумеснага савета па пытаннях ядзерных даследаванняў.*

### Х'ЮСТАН СВЯТКУЕ СВАБОДУ

*Уітні Х'юстан адсвяткуе канец рэжыму апартэіду шэрагам канцэртаў у Паўднёва–Афрыканскай Рэспубліцы наступным месяцам.*

Спявачка выступіць з музычнай праграмай у буйных гарадах краіны. Шоу ў Йоханесбургу пройдзе на футбольным стадыёне перад 70-тысячнай публікай.

"Суперчэннэл"

### АЗОНАВАЯ ДЗІРКА РАСЦЕ

*Еўрапейскія вучоныя правялі даследаванні, якія паказалі, што дзірка ў азонавым слоі над Антарктыдай намнога шырэйшая, чым гэта лічылася раней.*

Павелічэнне азонавай дзіркі спецыялісты тлумачаць узаемадзеяннем сонечнага святла і шкодных рэчываў, якія ўтрымліваюцца ў атмасферы.

### ДАВЯРАЙ, АЛЕ ПРАВЯРАЙ

*У Сцінга ўкралі 4,7 млн. даляраў. А ў лонданскім Скотланд–Ярдзе апынуўся бухгалтар спевака.*

Апошняму было прад'яўлена абвінавачванне з 14 пунктаў у тым, што ён на працягу ўжо трох гадоў абкрадваў свайго гаспадара. Бухгалтар быў адпушчаны пад залог з умовай не пакідаць межаў Вялікабрытаніі.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

